

# БАЙРАМ

**Квартальнік Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускага грамадскага згуртавання татар "Зікр уль-Кітаб"**

**2000 ВЫПУСК 1-2**

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

**ВЫПУСК № 1–2 (37–38)**

**КВАРТАЛЬНІК
МУСУЛЬМАНСКАГА
РЭЛІГІЙНАГА АБ'ЯДНАННЯ
Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ
І БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКАГА
ЗГУРТАВАННЯ ТАТАР "ЗІКР УЛЬ КІТАБ"**

**Мінск, 2000**

**БАЙРАМ. ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ.** / Квартальнік Беларускага грамадскага згуртавання "Зікр уль Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь, вып. № 1–2 (37–38) – Мн., 2000, – 76 стар.

Квартальнік "Байрам" – выходзіць з 1991 года. У ім змяшчаецца інфармацыя аб жыцці і дзейнасці мусульманскіх абшчын на Беларусі, аб асновах Іслама і правах мусульман, гісторыі беларускіх татар і важнейшых падзеях у мусульманскіх краінах. Выходзіць чатыры разы на год. Разлічаны на мусульман Беларусі, навукоўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй, культурай, мусульманскай рэлігіяй беларускіх татар.

Адказны за выпуск **Ібрагім Канапацкі**
Рэдактары **Ісмаіл Александровіч, Разалія Александровіч, Яўген Гучок, Ібрагім Канапацкі, Дзмітры Чымбаевіч, Таццяна Якубоўская**
Набор **Дзмітры Чымбаевіч**

بسم الله الرّحمن الرّحيم

*Во имя Аллаһа Милостивого, Милосердного!*

## Салям алейкум, паважаныя чытачы нашага квартальніка!

Цэлы 2000 год «Байрам» не выходзіў у свет. Гэта не значыць, што мы сябе вычэрпалі. Прычыны банальныя і вядомыя: няма сродкаў на выданне. Распачынаючы выдавецкую справу ў далёкім ужо 1991 годзе мы спадзеваліся на дапамогу нашых чытачоў – «Байрам» друкаваўся выключна на сяброўскія складкі. Але з кожным годам сабекошт выдання павялічваўся і тых грошаў, што мы трацілі на выданне часопіса ў 1991–1992 гадах не хапала ў наступныя гады. Прыходзілася звяртацца за дапамогай да нашых замежных сяброў з Польшчы, Швейцарыі, Злучаных Штатаў Амерыкі. Вялікі дзякуй Рамуальду Сабалеўскаму, Селіму Хазбіевічу, Юзэфу Канапацкаму, Паулю Сутэру, Яну Запрудніку, Вітаўту Кіпелю, якія аказвалі нам значную дапамогу ў выданні «Байрама».

Аднойчы дапамагла і дзяржава. У 1998 годзе Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь вылучыў фінансаванне на чатыры нумары часопіса.

Пэўную дапамогу «Байраму» аказвалі Упраўленне Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь і Згуртаванне «Аль–Кітаб».

Шчырае ім усем дзякуй!

Сення наш квартальнік перажывае не лепшыя часы. Таму мы звяртаемся да нашых супляменнікаў з просьбай аказаць дапамогу «Байраму».

Нагадаем, што квартальнік – гэта першае перыядычнае выданне беларусскіх татараў за болей чым 600-гадовую гісторыю пасялення нашага народа на Беларусі. На працягу васьмі гадоў *(1991–1998)* нязменным галоўным рэдактарам «Байрама» з 1 па 27 нумар быў выдатны беларускі энцыклапедыст, лаўрэат Дзяр-

жаўнай прэміі Якуб Адамавіч Якубоўскі (*1932–1998*). Менавіта ён заклаў моцны падмурак нашага выдання. Побач з ім працавалі і працягваюць працаваць на грамацкіх пачатках, без аплаты, без кабінета, шчырыя і самаадданыя, з высокім пачуццём адказнасці, самаахвярныя і бескарыслівыя супрацоўнікі рэдакцыі: Ісмаіл Александровіч, Разалія Александровіч, Яўген Гучок, Міхась Маліноўскі, Дзмітры Чымбаевіч, Таццяна Якубоўская.

Дзякуючы іх намаганням нараджаецца кожны нумар квартальніка.

Сёння мы смела можам казаць, што «Байрам» мае здабыткі і пэўнае кола чытачоў. Дарэчы, сярод усіх выданняў суполак нацыянальных меншасцей Беларусі «Байрам» першым атрымаў у 1999 годзе і прэмію і афіцыйнае прызнанне за «мэтанакіраваную сістэмную работу па ўсебаковаму асвятленню дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, выхаванню культуры міжнацыянальных адносін, садзейнічанне дзейнасці нацыянальна-культурных аб'яднанняў»

Спадзяёмся, што з дапамогай Усявышняга мы выйдзем са складанага становішча і нашае выданне ўнясе свой уклад у пачэсную справу нацыянальнага, культурнага і рэлігійнага адраджэння беларускіх татар.

Няхай будзе на гэта воля і бласлаўленне Усявышняга Творцы і няхай будзе Ён нашым дарадчыкам ва ўсіх нашых справах.

Мір Вам і міласць Аллага Усявышняга!

**Рэдакцыя часопіса «Байрам»**
студзень 2001 г.



# КУР'АН

## Сура трынаццатая – Гром

*У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!*

**1 (1).** Аліф лам мім ра. Гэта – знак кнігі. Бо тое, што паслана табе ад твайго Госпада,– праўда, але большая частка людзей не дае веры.

**2 (2).** Аллаг – той, хто ўзвёў нябёсы без апораў, якія б вы бачылі, потым усталяваўся на троне і падпарадкаваў сонца і месяц: усё цячэ да пэўнай мяжы. Ён кіруе (*Сваёй*) справай, усталёўвае ясна знакі, – можа быць, вы пераканаецеся ў сустрэчы з вашым Госпадам!

**3 (3).** Ён – той, хто распасцёр зямлю і ўладкаваў на ёй трывала горы і рэкі і з усякіх пладоў усталяваў там пары па двое. Ён захінае ноччу дзень. Сапраўды, у гэтым – знакі для людзей, якія думаюць!

**4 (4).** На зямлі ёсць дзялянкі суседнія, сады з лоз, і пасевы, і пальмы з аднаго караня і не з аднаго караня, якія пояць адной вадой. І адным з іх Мы даём перавагі перад другімі для ежы. Сапраўды, у гэтым – знакі для людзей разумных!

**5 (5).** Калі ты і здзіўляешся, дык дзіўныя словы іх: *«Няўжо, калі мы будзем прахам, мы апынемся ў новыя тварэнні?»*

**6.** Гэта – тыя, што не верылі ў свайго Госпада, у іх ланцугі на шыях: гэта – жыхары агню, у ім яны будуць вечна.

**7 (6).** Яны прыспешваюць цябе з кепскім наперад добрага, але да іх ужо прыходзілі прыкладныя пакаранні, і, сапраўды, Гасподзь твой – уладар даравання людзей нават пры іх грэшнасці! І, сапраўды, Гасподзь твой моцны ў пакаранні!

**8 (7).** І гавораць тыя, каторыя не верылі: *«Калі б яму быў дараваны знак ад яго Госпада!»* Сапраўды, ты – толькі ўгаворшчык, і ў кожнага народа ёсць правадыр!

وَيَسْتَعْجِلُونَكَ بِالسَّيِّئَةِ قَبْلَ الْحَسَنَةِ وَقَدْ خَلَتْ مِن قَبْلِهِمُ
الْمَثُلَٰتُ وَإِنَّ رَبَّكَ لَذُو مَغْفِرَةٍ لِّلنَّاسِ عَلَىٰ ظُلْمِهِمْ
وَإِنَّ رَبَّكَ لَشَدِيدُ الْعِقَابِ ﴿7﴾ وَيَقُولُ الَّذِينَ كَفَرُوا
لَوْلَا أُنزِلَ عَلَيْهِ ءَايَةٌ مِّن رَّبِّهِ إِنَّمَا أَنتَ مُنذِرٌ وَلِكُلِّ
قَوْمٍ هَادٍ ﴿8﴾ اللَّهُ يَعْلَمُ مَا تَحْمِلُ كُلُّ أُنثَىٰ وَمَا تَغِيضُ
الْأَرْحَامُ وَمَا تَزْدَادُ وَكُلُّ شَيْءٍ عِندَهُ بِمِقْدَارٍ ﴿9﴾
عَالِمُ الْغَيْبِ وَالشَّهَادَةِ الْكَبِيرُ الْمُتَعَالِ ﴿10﴾ سَوَآءٌ مِّنكُم مَّنْ
أَسَرَّ الْقَوْلَ وَمَن جَهَرَ بِهِ وَمَنْ هُوَ مُسْتَخْفٍ بِالَّيْلِ
وَسَارِبٌ بِالنَّهَارِ ﴿11﴾ لَهُ مُعَقِّبَٰتٌ مِّن بَيْنِ يَدَيْهِ وَمِنْ خَلْفِهِ
يَحْفَظُونَهُ مِنْ أَمْرِ اللَّهِ إِنَّ اللَّهَ لَا يُغَيِّرُ مَا بِقَوْمٍ حَتَّىٰ يُغَيِّرُوا
مَا بِأَنفُسِهِمْ وَإِذَا أَرَادَ اللَّهُ بِقَوْمٍ سُوٓءًا فَلَا مَرَدَّ لَهُ وَمَا لَهُم
مِّن دُونِهِ مِن وَالٍ ﴿12﴾ هُوَ الَّذِي يُرِيكُمُ الْبَرْقَ خَوْفًا
وَطَمَعًا وَيُنشِئُ السَّحَابَ الثِّقَالَ ﴿13﴾ وَيُسَبِّحُ الرَّعْدُ بِحَمْدِهِ
وَالْمَلَٰٓئِكَةُ مِنْ خِيفَتِهِ وَيُرْسِلُ الصَّوَاعِقَ فَيُصِيبُ بِهَا
مَن يَشَآءُ وَهُمْ يُجَادِلُونَ فِي اللَّهِ وَهُوَ شَدِيدُ الْمِحَالِ ﴿14﴾

لَهُ دَعْوَةُ

**9 (8).** Аллаг ведае, што нясе кожная самка; наколькі сціскаюцца і наколькі павялічваюцца вантробы. Бо кожная рэч у Яго па меры.

**10 (9).** Хто ведае прыхаванае і відавочнае, той Вялікі, высока ўзнесены!

**11 (10).** Аднолькавы сярод вас і той, хто хавае мову, і той, хто адкрывае яе, і той, хто хаваецца ноччу і выступае ўдзень.

**12 (11).** У Яго ёсць наступныя непасрэдна і перад ім і ззаду, якія ахоўваюць яго па загадзе Аллага. Сапраўды, Аллаг не мяняе таго, што з людзьмі, пакуль яны самі не пераменяць таго, што з імі. А калі Аллаг пажадае людзям зла, то няма магчымасці адхіліць гэта, няма ў іх апроч Яго заступніка!

**13 (12).** Ён – той, каторы паказвае вам бліскавіцу для страху і надзеі. Ён гадуе аблокі цяжкія.

**14 (13).** І гром праслаўляе Яго хвалой, і анёлы – ад страху перад Ім. Ён дасылае маланкі і дае паразы тым, каго пажадае, калі яны спрачаюцца аб Аллагу,– бо Ён моцны ў баі!

**15 (14).** І да Яго *(звяртаецца)* кліч ісціны, а тыя, каторых яны выклікаюць апроч Яго, не адказваюць ім нічым, хіба што так, як хто рукі працягвае да вады, каб яна дайшла да яго рта, але яна не даходзіць да яго. Бо малітва няверных – толькі на ілжывым шляху!

**16 (15).** Аллагу пакланяюцца тыя, хто на нябёсах і на зямлі, вольна і нявольна, і цені іх раніцай і па вечарах.

**17 (16).** Скажы: *«Хто Гасподзь нябёс і зямлі?»* Скажы: *«Аллаг».* Скажы: *«Тады няўжо вы ўзялі сабе апроч Яго заступнікаў, каторыя не валодаюць для саміх сябе ні карысцю, ні шкодай?»* Скажы: *«Хіба параўнаецца сляпы і відушчы, ці параўнаюцца цемра і святло?»* Ці прыстроілі яны Аллагу сатаварышаў, якія тварылі, як Ён творыць, і падобным падалося перад імі тварэнне?» Скажы: *«Аллаг – творца кожнай рэчы, Ён – адзіны, магутны!»*

**18 (17).** Ён звёў з неба ваду – і пацяклі рэчышча па іх кольkасці, і панёс паток пену, што ўздымаецца. І з таго, што яны распальваюць у агні, жадаючы ўпрыгожанняў і спакусаў, – пена накштaлт гэтага. Так прыводзіць Аллаг праўду і ілжывасць. І што тычыцца пены, дык яна адыходзіць прахам, а тое, што карысна людзям, застаецца на зямлі. Так Аллаг прыводзіць прытчы: (18). тым, якія адказалі свайму Госпаду, – дрэннае, а тым, каторыя не адказалі Яму, калі б у іх было ўсё тое, што на зямлі, і яшчэ столькі, яны б выкупілі гэтым, ім – злы разлік, і прыстанак іх – пекла, і мярзотнае гэта ложа!



# Татары ў гісторыі Беларусі

Гісторыя татараў, як і гісторыя беларусаў, у школьных праграмах не вывучалася, а працы вучоных-гісторыкаў, якія датычылі гісторыі татараў, былі недаступныя для шырокага кола чытачоў. Свой погляд на гэтую праблему прапануе наш чытач, Саніяф Фатыхавіч Гарданаў.

Усе пакленні савецкіх людзей "ведалі" аб татарах як аб варварах і дзікунах, дзякуючы школьным падручнікам, якія тэндэнцыйна скажалі звесткі пра татара-мангольскае іга. Аб абсалютным няведанні гісторыі татараў сведчыць і той факт, што ў Расіі У.Жырыноўскі, будучы кандыдатам у прэзідэнты, заявіў: *"Стану прэзідэнтам – усіх татараў перасялю ў Манголію"*. З гэтай самай нагоды ў мінулым стагоддзі ўсе цюркскамоўныя народнасці называліся татарамі. Узгадайце "Кавказского пленника" Л.Талстога. Этнонім "татары" быў нададзены цюркскамоўным кіпчакам і камска-волжскім булгарам, якія складалі асноўную частку насельніцтва Залатой Арды. Заваяваўшы гэтыя народы, правадыры Арды, назваўшы сябе ганаровым імем "татары", паступова распаўсюдзілі гэту назву цалкам на дзяржаву і ўсё насельніцтва, якое ў ёй жыло. Хаця напачатку дзяржава называлася Кіпчакскім царствам, так як асноўная частка татара-манголаў пасля паходаў Батыя вярнулася на Усход, на сваю радзіму Каракарум. Ад прышэльцаў засталіся адзінкі – продкі сучасных калмыкаў.

Нашчадкамі цюркскамоўных кіпчакаў і камскіх булгараў цяпер з'яўляюцца татары Волга-Уральскага рэгіёну *(казанскія)*, сібірскія, астраханскія, крымскія і літоўскія, якія цяпер жывуць на Беларусі, Польшчы і Літве. З гэтае нагоды вядомы гісторык Л.Гумілёў пісаў: *"... так тысячу гадоў таму дзьве буйнейшыя дзяржавы Усходняй Еўропы – Кіеўская Русь і Волжская Булгарыя заключылі мірнае пагадненне, якое, нягледзячы на тое, што славяне прынялі хрысціянскую веру, а цюркскамоўныя булгары па-ранейшаму шанавалі мусульманства, станоўча адбівалася на адносінах паміж народамі на працягу амаль 250 гадоў, практычна да разгрому Батыя. Дарэчы, нашчадкі гэтых булгараў, якія складалі значную частку насельніцтва Сярэдняга Паволжа, па збегу акалічнасцяў называюцца імем "татары", а іх мова – татарскай, хоць гэта не больш чым камуфляж!"*

У 1860 г. М.Чарнышэўскі сцвярджаў: *"З цяперашніх крымскіх, казанскіх і арэнбургскіх татараў наўрад ці знойдзецца хоць адзін чалавек, які паходзіць ад Батыя, альбо пакораны ім, як былі пакораны рускія"*. У Казанскім, Сібірскім, Астраханскім, Крымскім ханствах, якія ўтварыліся пасля распаду Залатой Арды, татарамі называла сябе феадальная вярхушка, групы ваенных і

чынавенства, якія паходзілі ў асноўным ад залатаардынскіх татараў кіпчакска-нагайскага паходжання. Менавіта яны адыгралі значную ролю ў распаўсюджванні этноніма "татары". Тым не менш даны этнонім замацаваўся ў гісторыі даволі складана. Сярод татараў волга-уральскіх у XVI ст. ён яшчэ ўспрымаўся і як бы меў адмоўны сэнс. Практычна да XIX ст. яны называлі сябе – казанлы, болгар, мішар, цяпцяр, крашэн і г.д. Аднак ужо ва ўмовах фарміравання нацыі *(другая палова XIX ст.)* у татар пачаўся працэс росту самасвядомасці і асэнсавання свайго адзінства. І пад уздзеяннем інтэлігенцыі паступова адбылася адмова ад лакальных самасвядомасцяў на карысць аднаго агульнага этноніма "татары". І да часу перапісу 1926 г. большасць татар лічылі сябе ўжо татарамі.

Усё ж гісторыя зрабіла сваю справу. І сёння знаходзяцца асобныя прадстаўнікі народа, якія адмоўна ставяцца да назвы сваёй нацыянальнасці. Напрыклад, за 1998–1999 гг. больш за 200 жыхароў Казані праз суд запісы ў сваіх пашпартах аб нацыянальнай прыналежнасці з "татарына" змянілі на "балгарын".

Этнічная гісторыя татар даволі складаная і ў шэрагу аспектаў застаецца недастаткова вывучанай. Адносна познім этнічным утварэннем з'яўляюцца літоўскія татары. Гэта група пачала складвацца ў канцы XIV ст. на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага з выхадцаў з Залатой Арды, пазней з Вялікай і Нагайскай Ордаў.

## Татары на землях ВКЛ

Няма ніякіх сумненняў, што яшчэ да вялікага князя Вітаўта былі пасяленні татараў у Літве. Вядома, што Гедымін, заснавальнік магутнай Літоўскай дзяржавы, меў добрыя адносіны з ардынцамі: ён ніколі не ваяваў з імі і не плаціў ім даніну. Наадварот, у яго войску служылі татары. Так ужо ў бітве 1319 г. з Тэўтонскім Ордэнам удзельнічаюць татары, якія складалі значную частку войска Гедыміна. Гісторыкі сцвярджаюць, што частка татараў, якія служылі ў Гедыміна, засталіся ў ягонай дзяржаве і пасля вайны і атрымалі ад яго ў валоданне землі. Напрыклад, анналіст Францысканскага Ордэна ў 1324 г. піша: *"Нашы браты, якіх абрацілі ў Хрысціянскую веру Літоўскіх зямель, нашлі ўвесь народ паглыбленым у паганстве: пакланяюцца агню і ў сваіх малітвах ужываюць Азіяцкую мову"*.

Трэба адзначыць, што калі ўся Еўропа ўзбройвалася мячом і нянавісцю супроць мусульман, літоўскія князі з любоўю і гасціннасцю запрашалі ў свае ўладанні татар, якія ў сілу розных абставінаў вымушаны былі пакідаць сваю радзіму. У Літве яны атрымоўвалі землі, не гублялі сваёй веры і былі прыраўняны ў правах да мясцовай шляхты. Такая палітыка ВКЛ выклікала недобразычлівыя адносіны

з боку Лівонскіх мечаносцаў, якія лічылі літоўскіх князёў ворагамі хрысціянства.

Галоўнай прычынай масавага перасялення татар з Залатой Арды на землі ВКЛ была міжусобіца за галоўны прастол. Дарэчы, з гэтай самай нагоды адбыўся распад некалі магучай дзяржавы, ад якой залежылі Рускія княствы працягу 200 гадоў. І гэта адбылося зусім не з-за таго, што на была прайграна Кулікоўская бітва 1380 г., як пішуць рускія гісторыкі, ухваляючы ролю Д. Данскога.

Масавае перасяленне татар у Літву пачалося ў перыяд княжання вялікага князя літоўскага Вітаўта, сына Кейстута *(1392–1430)*. Дарэчы, і пры Кейстуце ў 1350 г. ардынскія атрады прымалі ўдзел у паходзе супроць Польшчы.

У 1559 г. адзін з літоўскіх татараў на шляху ў Мекку спыніўся ў Стамбуле і для візіра султана Сулеймана напісаў трактат аб татарах у Літве. Гэты рукапіс патрапіў пазней у рукі даследчыка-арыенталіста, прафесара Санкт-Пецярбургскага універсітэта, беларускага шляхціча Антона Восіпавіча Мухлінскага, які, карыстаючыся гэтай крыніцай, у 1858 г. у Вільні апублікаваў працу "Аб паходжанні і стане літоўскіх татар". Акрамя гэтага, у сваёй працы "Гісторыя Атаманскай імперыі з 1520 па 1630 гг." турэцкі гісторык Пэчэві, які жыў у XV – пачатку XVI ст.ст., чэрпаючы звесткі з самых дакладных крыніцаў, апісаў гісторыю пасялення татараў у Літве.

Згодна з легендай, татар, якія ўдзельнічалі разам з Вітаўтам у паходзе 1397 г. на татараў Азоўскай Арды, налічвалася каля 40 тысяч. Як піша Мухлінскі, у выніку такога паходу частку заспетых у расплох татар Вітаўт адправіў у Польшчу да свайго брата Ягайлы, дзе палову з іх перахрысцілі, а большую частку прыгналі ў Літву з жонамі і дзецьмі і пасялілі іх у ваколіцах Вільні, Трокаў, Ашмян, Ліды, Навагрудка, Брэста, Валыні, Аўгустова разам з татарамі, якія збеглі ад Тамерлана.

У рускіх княствах палонных мусульманаў, якія адмовіліся прымаць праваслаўе, рабілі вечнымі рабамі. Вялікі князь Вітаўт даваў ім землі і абавязваў з'яўляцца на вайсковую службу. Прычым землі даваліся з правам наследства і прадажы. У адрозненне ад рускіх князёў, Вітаўт сяліў татараў і ў гарадах. Такім чынам татары карысталіся ўсімі правамі і жылі ў ВКЛ як на сваёй радзіме, з сваёй верай, мовай і звычаямі. Калі Вітаўта папракалі ў тым, што ён шчодра ўзнагароджваў няверных і міласціва з імі абыходзіўся, то ён адказваў: *"І самых лютых звяроў кротасцю можна ўцешыць"*.

У просьбе да Сігізмунда І, якая была пададзена ў 1519 г., татары выказалі сваю пашану да памяці Вітаўта наступным чынам: *"Не маем ужо слаўнага Вітаўта, ён не дазваляў нам забыць пра*

*прарока, і мы, звяртаючы нашы погляды да святых мекаў, паўтаралі імя яго, як імёны нашых халіфаў. Мы давалі клятву на мячах нашых, што любім літоўцаў, калі яны падчас вайны лічылі нас за ваеннапалонных, і пры ўступленні нашым у сію зямлю ўверылі, што пясок гэты, вада гэтая і дрэвы гэтыя будуць для нас агульнымі. Яны вядомы нашым дзецям і пры Салёных Азёрах (у Крыму) і ў Кіпчаку ведаюць, што мы ў зямлі нашай не чужаземцы".* Так паступаў Вітаўт і з караімамі, якіх разам з татарамі перасялялі з Крыма. Іх было каля 400 сямей. Нават асабістая ахова Вітаўта складалася з караімаў, нашчадкі якіх дагэтуль жывуць у Троках.

Калі ў 1410 г. пачалася вайна Тэўтонцаў з каралём Ягайлам, у шматлікай раці Вітаўта, як сцвярджаюць летапісцы, было 30 тысяч татар пад кіраўніцтвам сына Тахтамыша Джалал-ад-Дзіна. Бітва адбылася пад Грунвальдам 15 ліпеня. Праўда, сучасныя гісторыкі лічаць, што колькасць татарскай конніцы пры Грунвальдзе налічвала толькі каля 3 тысяч чалавек, што таксама нямала. Тым не менш, татары атрымалі права пачаць бітву. Існуюць легенды аб тым, што тэўтонцам наносілі ўрон не столькі стрэлы, колькі арканы, з дапамогай якіх воіны Джалал-ад-Дзіна скідвалі крыжакоў з коней, і пасля падзення рыцару цяжка было самому падняцца на каня без чыёй-небудзь дапамогі. Пасля Грунвальда татары ўдзельнічалі ў ваенных паходах аж да заключэння міру з Ордэнам у 1411 г.

Новы прыток татараў у Вялікае Княства Літоўскае адбываўся напачатку XVI ст. Справа ў тым, што пасля смерці Вітаўта *(1430)* і распаду Залатой Арды на асобныя ханствы з утварэннем Крымскататарскай дзяржавы – паўднёвага суседа ВКЛ – па шэрагу прычынаў пачалася паласа непрыязных адносінаў крымскіх ханаў да Польшчы. Адбываліся набегі татараў на Падолле. Так, у 1503 г. Менглі Гірэй, спустошыўшы Падолле, падыйшоў да Клецка і зруйнаваў яго. Не паспеў Клецк адбудавацца, як тая ж Перакопская арда, уварваўшыся другі раз у Літву, падыйшла ў 1506 г. да Клецка. Гэтым разам татары былі жорстка пакараны. Іх сустрэў тут гарматнай пальбой выхадзец з літоўскіх татараў князь Міхаіл Глінскі і, нягледзячы на шматлікага праціўніка *(каля 30 тысяч)*, разбіў яго. Бой працягваўся каля 3 гадзін паблізу Цёмнага возера, што пад Клецкам. Вялікая колькасць татараў была ўзята ў палон. Дарэчы, пазней із пасялілі ў Клецку і Мінску. Так з'явілася ў Клецку вуліца – Татарская слабада, а ў Мінску – Татарская.

У сярэдзіне XVI ст. аўтар "Рысале" лічыў татарскую супольнасць Вялікага Княства Літоўскага колькасцю ў 200 тысяч чалавек. Аднак гісторыкі лічаць гэту лічбу перабольшанай. Згодна з падлікамі гісторыка С.Крычынскага, у сярэдзіне XVI ст. у ВКЛ і на Валыні татарскае насельніцтва складала толькі 14–16 тысяч чалавек.

Першае пакаленне літоўскіх татар захоўвала і валодала роднай мовай. Шмат хто з іх служыў тады ў канцылярыях вялікіх князёў талмачамі *(перакладчыкамі)* і пісарамі, ездзілі пасламі ў Вялікую Арду і Крым, выконвалі адказныя даручэнні літоўскіх уладаў. Але ўжо ў сярэдзіне XVI ст., як паведамляе "Рысале", татары ў Літве, згубіўшы мову сваіх продкаў, размаўлялі ў асноўным па-беларуску ці па-польску. Гэта было характэрна, перш за ўсё, для татараў, якія жылі ў гарадах. Да таго ж, адбывалася асіміляцыя татараў з карэнным насельніцтвам. Многія мурзы і князі прынялі хрысціянства. Аднак большасць татараў захавала веру і мусульманскую рэлігію і тым самым захавалася як асобная этнагрупа пад назвай "татары".

Будучы вернымі воінамі, многія з іх атрымлівалі маёнткі з правам называцца шляхцічамі, ім надаваліся афіцэрскія і генеральскія званні. Князі ВКЛ высока цанілі вайсковы вопыт і баявыя якасці татар, плацілі ім грошы, дарылі падарункі. Кнігі раздачы жалавання караля Казіміра другой паловы XV ст. сведчаць, што група літоўскіх татараў суправаджала вялікага князя ў Польшчу, складала частку яго асабістай аховы.

Акрамя харунжых, існавалі "татары-казакі", якія мелі сваіх атаманаў. Тыя, у сваю чаргу, падпарадкоўваліся харунжаму. Атаманы існавалі яшчэ ў першай палове XVII ст., аб чым сведчаць матэрыялы рэвізіі 1631 г., у якіх узгадваецца атаман Ласосна з-пад Гродна.

Цікава змяняліся імёны і прозвішчы літоўскіх татараў. Напрыклад, Хасан –Асан – Асановіч; Ізмаіл – Смоля – Смольскі; Якуб – Якубоўскі – Якубовіч і г.д.

Татары ўдзельнічалі ва ўсіх войнах ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Так, у 60–70 гг. XVIII ст. у складзе Літоўскай арміі былі палкі генерала Беляка і палкоўніка Мустафы Карэцкага. Яны ж удзельнічалі ў паўстанні Тадэвуша Касцюшкі ў перыяд трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1793–1794 гг. Акрамя іх на баку Касцюшкі ваявалі такія вядомыя камандзіры, як палкоўнік Мустафа Бараноўскі, Мустафа Ахматовіч, Якуб Азюлевіч, Аляксандр Ахматовіч і інш. Адз'ютантам Тадэвуша Касцюшкі быў маёр Сулейман Беганскі. Дарэчы, пазней татарын Аляксандр Сулькевіч быў блізкім спадвіжнікам Юзэфа Пілсудскага. Ён жа і вывратаваў яго ад рускай турмы. Акрамя таго Сулькевіч быў адным з арганізатараў Польскай сацыял-дэмакратычнай партыі.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай татарскія палкі знаходзіліся ў складзе рускай арміі. Першы Літоўска-татарскі полк быў сфарміраваны пры Паўле I у 1797 г. Камандзірам палка быў прызначаны палкоўнік Якуб Мустафавіч Бараноўскі. Пазней полк называўся "уланскім" і ўдзельнічаў у швейцарскіх і прускіх паходах

1799–1806 гг. У грозным 1812 г. полк знаходзіўся ў складзе трэцяй арміі генерала Тармасава і перакрываў шлях французам на поўдзень і Украіну. За перамогу над французамі пад Кобрынам 15 ліпеня шмат хто з камандзіраў палка атрымалі ўзнагароды. Татарскі ўланскі полк быў адзначаны і падчас паходаў 1813–1814 гг. На татарскіх могілках у Даўбуцішках побач са Смаргонню ёсць надмагільны помнік з надпісам на рускай мове: «Здесь покоится прах Ивана Даниловича Заблоцкого, ротмистра Татарского уланского полка, удостоившегося получить в сражении под Кульмом крест св. Георгия из рук Его Величества Государя Императора Александра».

Шмат татараў садзейнічалі паўстанцам 1863–1864 гг. пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага і В. Урублеўскага, хаця і не мелі сваіх баявых атрадаў. Напрыклад, Адам Туган-Бараноўскі перавозіў зброю для паўстанцаў з Прусіі, арганізаваў збор сродкаў сярод мясцовых памешчыкаў, кіраваў нацыянальнай жандармерыяй у Марыянпольскім, Ваўкавыскім, Кальварыйскім паветах. Другі Туган-Бараносўкі, былы капітан рускай арміі, быў у ліку тых, хто дзейнічаў у раёне Навагрудка.

У гады Першай сусветнай вайны літоўскія татары прымалі ўдзел у фарміраванні мусульманскага корпуса. Камандаваў корпусам энергічны генерал-лейтэнант Мацей Сулькевіч родам з-пад Ліды. Артылерыяй корпуса камандаваў яго супляменнік генерал Аляксандр Малькоўскі. Начальнікам штаба быў таксама татарын — Юзаф Базарэвіч. У цэлым у гады Першай сусветнай вайны ў рускай арміі знаходзілася на службе 18 літоўскіх татараў-генералаў. Палкоўнікаў, старэйшых і малодшых афіцэраў налічвалася сотні. У 1918 г. пры іх актыўным удзеле быў сфарміраваны ўрад Крыма. Прэм'ер-міністрам стаў Мацей Сулькевіч. Высокія пасады ва ўрадзе займалі таксама літоўскія татары.

Што датычыць духоўнасці літоўскіх татараў, то яны захаваліся як самастойная этнічная група пад назвай "татары", перш за ўсё дзякуючы мусульманскай веры, хаця і згубілі татарскую мову. У XVII ст. яны цярпелі даволі моцны ўціск з боку каталіцызма, ім забаранялі будаваць мячэці. Тады шмат татараў ад'ехала ў Турцыю альбо прынялі хрысціянства, што прывяло да змяншэння колькасці татараў. Толькі Канстытуцыя 1766 г. дазволіла ім рамантаваць старыя і будаваць новыя мячэці. Да 1795 г. на землях Беларусі і Літвы знаходзілася 23 мячэці і 65 малебных дамоў. Самымі старажытнымі лічацца мячэці ў Некрашунцах пад Лідай *(1415 г.)* і Лоўчыцах пад Навагрудкам *(1420 г.)*. Да пачатку XX ст. на тэрыторыі Беларусі дзейнічала больш за 20 храмаў. Акрамя названых вышэй, мячэці былі ў Навагрудку, Слоніме, Ляхавічах,

Капылі, Мядзелі, Асмолаве пад Навагрудкам і г.д. На сягонняшні дзень захаваліся толькі 4 мячэці і ўсе на Гродзеншчыне. З іх у лепшым стане захавалася дзейнічаючая мячэць у Іўі. Дарэчы, яна пабудавана ў 1882 г. на ўласныя сродкі польскай графіні-каталічкі Эльфрыды Аўгустаўны Замойскай у гонар павагі да мясцовых татараў за іх праўдзівасць, адданасць і прыстойнасць. З тых часоў вось ужо больш чым 100 гадоў, па пятніцах удзячныя прыхажане-мусульмане здзяйсняюць намаз *(дога-малітву)* за ўпакой душы пані Замойскай. За апошнія два гады адноўлена мячэць у Навагрудку. Апошняй была разбурана Саборная мячэць у Мінску у 60-я гады. Выконвалі ўстаноўку М.Хрушчова: *"В коммунизм — без попов, ксендзов, раввинов и мулл»*. Такім самым чынам былі ліквідаваны і могілкі.

Згодна з перапісам 1989 г. на тэрыторыі Беларусі пражывала 12436 татараў. Але гэта толькі тыя, хто свядома адносіць сябе да гэтай народнасці. Большасць Якубоўскіх, Александровічаў, Багдановічаў і Багданкевічаў, Наркевічаў і Радкевічаў, Асмалоўскіх, Карамазавых, Базарэвічаў і Мурзевічаў нават не падазраюць, што ў іх жылах цячэ татарская кроў.

Раўна як і казанскія татары беларускія заўсёды лічыліся высокаадукаванымі людзьмі. На працягу стагоддзяў, страціўшы мову, яны карысталіся старабеларускай, выкарыстоўваючы пры гэтым на пісьме арабскую вязь. Дзякуючы вучоным татарам захавалася шмат помнікаў беларускай гісторыі і культуры.

Гады сталінскіх рэпрэсій не абыйшлі бокам і беларускіх татараў. Шмат з іх, хто жыў у Заходняй Беларусі, баючыся, што іх спасцігне доля крымскіх татараў, эмігрыравалі ў ЗША, Аўстралію, Заходнюю Еўропу.

Сёння найбольш кампактна татары на Беларусі пражываюць у Іўі, Навагрудку, Слоніме, Астрыне. Акрамя так званых карэнных татараў, ёсць татары, якія апынуліся ў Беларусі ў выніку міграцыі ў савецкі перыяд. У Мінску пры Цэнтры нацыянальных культур створана Згуртаванне татараў-мусульман Беларусі "Аль-Кітаб". У Гродне функцыяніруе грамадскае аб'яднанне татараў горада. Мэтай аб'яднання з'яўляецца адраджэнне мовы, культуры, звычаяў, удзел у фестывалях нацыянальных культур, сумеснае правядзенне нацыянальных святаў.

**С.Гарданаў**



## Да пытання аб сучасным стане беларуска-літоўскіх татар у Рэспубліцы Беларусь

Рэспубліка Беларусь знаходзіцца ў цэнтральнай частцы Еўропы. Гэтую вялікую тэрыторыю (*207,6 тыс. км²*), якая працягнулася з поўначы на поўдзень на 560 км і з захаду на ўсход на 560 км насяляе славянскі народ – беларусы. Яны складаюць амаль 80% (*з 10 млн.*) усіх жыхароў рэспублікі. Разам з беларусамі ў Рэспубліцы Беларусь жывуць літоўцы, палякі, украінцы, рускія, яўрэі, татары ды іншыя народы.

Беларусы ў асноўным праваслаўныя, каталікі, уніаты і пратэстанты. 124 народы, што жывуць на Беларусі, вызнаюць розныя рэлігіі.

Апошнюю з трох сусветных рэлігій – Іслам на Беларусі традыцыйна вызнаюць паводле перапісу насельніцтва ў Беларусі (*1999 г.*) наступныя народы:

| | |
|---|---|
| Татары – | 10089 (12552)[1] |
| Абхазцы – | 199 (149) |
| Аварцы – | 228 (293) |
| Адыгейцы – | 46 (139) |
| Азербайджанцы – | 6362 (5009) |
| Албанцы – | 8 (11) |
| Арабы – | 490 (101) |
| Афганцы – | 395 (18) |
| Башкіры – | 1091 (1252) |
| Інгушы – | 129 (116) |
| Кабардзінцы – | 157 (178) |
| Казахі – | 1239 ( 2266) |
| Каракалпакі – | 12 (152) |
| Карачаеўцы – | 17 (56) |
| Кіргізы – | 108 (564) |
| Нагінцы – | 14 (40) |
| Персы – | 111 (127) |
| Таджыкі – | 848 |
| Крымскія татары – | 36 (116) |
| Татары сібірскія – | 21 |
| Туркі (асманы) – | 35 (55) |
| Туркмены – | 921 (777) |

[1] У дужках пазначаецца колькасць народа паводле папярэдняга перапісу 1989 г.

| | |
|---|---|
| Туркі месхіцінцы – | 36 |
| Узбекі – | 1571 (3537) |
| Уйгуры – | 32 |
| Чэркесы – | 19 |
| Чэчэнцы – | 376 (298) |
| **Усяго:** | **24590 (28762)** |

Як бачым, нягледзячы на змяншэнне больш чым на 2,5 тыс. чалавек татары складаюць па-ранейшаму каля паловы мусульман *Беларусі (ці беларускіх мусульман)*. Вылучаюцца дзве группы татар (*калі не лічыць крымскіх і -Літоўскай Дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага сібірскіх)*: мясцовыя, беларускія (*або літоўскія – па назве Беларуска)*, якія пасяліліся тут некалькімі хвалямі спачатку з Залатой Арды, а пасля яе падзення ў канцы XVст. пераважна з Крымскага ханства, і нетутэйшыя татары (*з Волгі і Урала)*, перасяленне якіх пачалося пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай. Даволі многа пераехала татар на Беларусь пасля таго, як пачаліся пошукі радовішчаў нафты і яе пераапрацоўка на нафтаперапацоўчых прадпрыемствах Беларусі, бо ў паволжскіх татар быў вельмі вялікі вопыт работы на нафтапромыслах. У расійскіх і савецкіх перапісах (*гэтак-сама і ў* татары не пазначаюцца асобна, хоць, як вядома, яны *апошнім перапісу 1999г. у Рэспубліцы Беларусь)* беларуска-літоўскія адрозніваюцца ад астатніх татар па мове і звычаях. У 1989 г. паводле перапісу, з 12,5 тыс. татар, якія населялі Беларусь, 3,2 тыс. назвалі сваёй роднай мовай татарскую. Гэта акалічнасць бясспрэчна сведчыць, што ўсе яны не належылі да нашчадкаў беларуска-літоўскіх татар. У той жа час 8 тыс. татар назвалі роднай мовай беларускую *(гэта тутэйшыя татары)*.

Паводле апошняга перапісу насельніцтва (*1999 г.),* у Рэспубліцы Беларусь пражывалі 10.089 татар. На тэрыторыі Беларусі, гэтаксама, як і ў суседніх Літве і Польшчы, татары расселены дысперсна. Найбольшыя абшчыны татар знаходзяцца ў Мінску і Мінскай вобласці (3841 чал.), у Гродзенскай вобласці (*2155 чал.),* Віцебскай вобласці *(1258 чал.),* Гомельскай вобласці (*1127 чал.),* Брэсцкай вобласці (*933 чал.),* Магілёўскай вобласці (*775 чал.)*. 8327 татар жывуць у гарадах і 1762 у сельскай мясцовасці. 44 % ад агульнай колькасці ўсіх татараў складаюць жыхары Мінска і Мінскай вобласці, 23% – Гродзенскай вобласці, па 9% –

Віцебскай і Гомельскай абласцей, 8% – Брэсцкай і 7% – Магілёўскай вобласці.

Паступова сярод беларускіх татар адраджаецца святая вера – Іслам. На пачатку 2000 г. ў Рэспубліцы Беларусь было афіцыйна зарэгістравана 24 мусульманскія абшчыны. У гарадах Слонім і Навагрудак, Клецк, гарадскіх пасёлках Іўе, Смілавічы і Відзы дзейнічаюць мячэці. Нашы татары, якія 600 гадоў трымаліся Ісламу ў асяроддзі хрысціян, выклікаюць вялікую цікавасць ва ўсім свеце. І гэта робіць гонар талерантнаму беларускаму народу. Іслам, які татары тут зберaглі ў хрысціянскім асяроддзі, садзейнічаў захаванню супольнасці, вылучаў і вылучае нашу супольнасць. Менавіта з рэлігійнай сферай звязаны шматлікія традыцыі і звычаі тутэйшых татар.

Татары-мусульмане на Беларусі вераць у Аднаго, Адзінага Непараўнальнага Бога; у анёлаў, якіх стварыў Бог; у пракокаў, праз якіх Бог перадаў Свае адкравенні чалавецтву; ва ўсе пасланні Гасподнія; у Дзень Суда, калі кожны чалавек будзе адказваць за свае ранейшыя справы; у абсалютную ўладу Бога над лёсам чалавецтва; у замагільнае жыццё. Мусульмане вераць у прарокаў, начынаючы ад Адама, затым Ноя, Аўраама, Ісмаіла, Іакава, Іосіфа, Майсея, Аарона, Давыда, Саламона, Іллю, Іаана Хрысціцеля і Іісуса *(мір ім!)*. Але апошнім пасланнем Бога сталі адкравенні, перададзеныя прароку Мухаммеду *(мір яму!)* праз Гаўрыіла. Мухаммед *(мір яму!)* іх запомніў на памяць, затым дыктаваў сваім прыхільнікам. Запісы пісцоў былі перапраўлены пры яго жыцці. Ні адзін з 114 раздзелаў *(сур)* не быў зменены на працягу стагоддзяў, так што Кур'ан ёсць той унікальны тэкст, які быў перададзены Мухаммеду *(мір яму!)* Божым цудам 14 стагоддзяў таму. Кур'ан – апошняе з адкравенняў Божых – галоўная крыніца веры і жыцця любога мусульманіна. У Кур'ане адлюстраваны ўсе хвалюючыя чалавека праблемы: мудрасць, дактрына, богаслужэнне, права, і перш за ўсё адносіны паміж Богам і Яго стварэннямі. У Кур'ане ёсць таксама ўказанне чалавеку, як правільна паводзіць сябе і як пабудаваць справядлівае грамадства.

Другой, пасля Кур'ана сакральнай крыніцай Ісламу з'яўляецца Сунна – прыклад жыцця прарока Мухаммеда *(мір яму!)* як узор і кіраўніцтва для ўсей мусульманскай абшчыны. Сунна складаецца з хадзісаў – надзейным чынам зафіксаваных паданняў аб словах і дзеяннях Прарока *(мір яму!)*. Вось толькі некаторыя паданні слоў *(хадзісы)* прарока Мухаммеда *(мір яму!)*. Прарок *(мір яму!)*

казаў: *"Будзьце міласэрнымі адзін да аднаго і Бог будзе міласэрны да вас".*

*"Ніхто з вас не верыць па-сапраўднаму, пакуль не пажадае свайму брату таго, чаго жадае самаму сабе"; "Той хто сыты, пакуль сусед яго галодны, той не вернік";*

Моцны не той, хто збівае іншых, сапраўды моцны той, хто кантралюе сябе ў гневе"; *"Бог не судзіць цябе па твайму абліччу, выглядзе. Ён уважліва ўзіраецца ў твае сэрца, твае справы"* і г.д.

У ісламскім свеце няма дамоў для састарэлых. Клопат пра бацькоў у самы цяжкі перыяд іх жыцця лічыцца за гонар і нагодай для найбольшага духоўнага развіцця. Бог патрабуе, каб мы не толькі маліліся за сваіх бацькоў, але і ставіліся да іх з любоўю і пяшчотай і памяталі, што, калі мы самі былі малымі дзецьмі, яны любілі нас больш чым сябе. Маці карыстаецца павагай і пашанай. Прарок (*мір яму!*) вучыў, што рай знаходзіцца "каля ног маці".

Паводле Ісламу служэнне бацькам з'яўляецца абавязкам. Лічыцца недапушчальным выказваць якое-небудзь незадавальненне, калі пажылыя – не па сваей віне – становяцца "цяжкімі". У Кур'ане сказана:

*"І рашыў твой Гасподзь, каб вы не пакланяліся нікому, акрамя Яго, і будзьце добрымі да бацькоў. Калі дажыве ў цябе да старасці адзін з іх ці абое, то не кажы ім словы, якія могуць выклікаць незадавальненне, і не папракайце іх, але звяртайцеся да іх з добрым словам"* (*Кур'ан, сура 17, аят 24*).

Як і Хрысціянства, Іслам дазваляе ваяваць для самаабароны, абароны веры і тых, хто быў сілай вымушаны пакінуць свой дом. Іслам устанавіў строгія правілы вядзення вайны, забараняючы знішчэнне мірных грамадзян, ураджаю, дрэў і жывёлы. З пункту гледжання Ісламу, несправядлівасць панавала б, калі б добрыя людзі не былі б гатовыя рызыкаваць жыццём за справядлівую справу. У Кур'ане сказана:

*"Змагайцеся на шляху Аллага з тымі, хто змагаецца з вамі, але не пераступайце мяжы дазволенага,– сапраўды, Аллах не любіць тых, хто пераступае"* (*Кур'ан, сура 2, аят 190*).

Такім чынам, ваяваць можна толькі ў крайнім выпадку, і нават тады неабходна выконваць умовы, вызначаныя Божым правам. Паняцце "джыхад" (*свяшчэнная вайна*) літаральна азначае "намаганне", "барацьба". Мусульмане вераць, што ёсць два тыпы джыхаду. У другім значэнні ён увасабляецца як унутраная барацьба з эгаістычнымі жаданнямі, як мэта дасягнення ўнутранага спакою.

Татара-мусульмане Беларусі не жывуць ізалявана ад астатняга грамадства. Закранаючы ўзаемаадносіны мусульман з "уладальнікамі

пісання", г.зн. цвёрдымі паслядоўнікамі Маісея і Ісуса, тымі вернікамі, якія існавалі да ўзнікнення Ісламу, або застаюцца прыхільнікамі іншых пасланняў Усявышні Аллаг у Свяшчэнным Кур'ане вучыць нас, мусульман, будаваць гэтыя адносіны на грунце міру, дабрыні і цярпімасці.

У Кур'не гаворыцца:

*«І не спрачайцеся з уладальнікамі Кніг інакш як чым-небудзь лепшым, акрамя тых з іх якія несправядлівыя. І скажы: "Мы веруем у тое, што было абкрыта нам і ў тое, што было адкрыта вам; і наш Бог – Адзіны і мы яму аддаёмся»* (29:46)

У другім аяце Усявышні Аллаг кажа:

*"Не забараняе вам Аллах у адносінах да тых, якія не змагаліся супраць вас з-за веры вашай, і якія вас не выганялі з дамоў вашых,– аказваць гасціннасць ім і паступаць з імі справядліва, бо любіць Аллах справядлівых." (60:8)*.

Мусульмане Беларусі, як і ўсяго сьвету вельмі занепакоены і ўсхваляваны тымі крывавымі падзеямі, якія адбываюцца ў свеце. Наша рэлігія лічыць вайну пажарам, які трэба тушыць. Усявышні Гасподзь гаворыць у Свяшчэнным Кур'ане: *"Сапраўды ўсе хто веруе – у адзіным братэрстве, а таму мірыце вашых братоў. Страшыцеся Бога і мажліва тады Бог будзе да вас міласэрдным" (49:11)*

Агульнавядома, што Хрысціанства і Іслам, разам з Іўдаізмам маюць агульнае паходжанне, ад агульнага прабацькі *(продка)* Аўрама *(Абрама, Абрагама або каранічнага Ібрагіма)* – бацькі ўсіх продкаў. Прарокі гэтых рэлігій – прамыя нашчадкі яго сыноў: Мухамед *(Мір Яму!)* паходзіць ад старэйшага сына Аўраама-Ісмаіла *(алейгі салям!)*, а Маісей і Ісус *(Мір ім абоім!)* ад малодшага Ісаака *(Мір Яму!)*.

Беларускія татары-мусульмане жывуць у міры і згодзе з усімі народамі нашай любай маці Беларусі.

Але за мінулыя дзесяцігодзі таталітарнае праўленне падарвала асновы веры беларускіх татар.

Савецкая ўлада ў БССР зрабіла ўсё для разбурэння традыцыйнага жыццёвага ўкладу татарскага насельніцтва Беларусі, а таксама цэнтраў захавання этнаканфесійнай спецыфікі гэтага насельніцтва. У першыя гады савецкай улады былі закрыты мусульманскія школы пры мячэцях. Крыху пазней, змагаючыся з праявамі рэлігійнасці, пачалі таксама закрываць мячэці. Нягледзячы на аддзяленне царквы ад дзяржавы ўзмацнілася яе *(дзяржавы)* умяшанне ў рэлігійнае жыццё. 26 лютага 1922 года была апублікавана пастанова ЦВК, якая прапанавала канфіскаваць усе царкоўныя

каштоўнасці для дапамогі галадаючым Паволжа. Для яе ажыццяўлення была створана спецыяльная камісія на чале з А.Р. Чарвяковым. Разам з храмамі іншых канфесій былі абрабаваны і мячэці. Апошнія каштоўнасці былі ўзяты з мячэцяў у Смілавічах, Капыля, Мінску і Узды. У наступныя гады ўзмацніўся ўціск на ўсе канфесіі. Вернікі асабліва гэта адчулі, калі ў грамадскую думку пачала ўкараняцца "тэорыя" абвастрэння класавай барацьбы ў працэсе пабудовы сацыялізму. Лічылася, што вернікі прымаюць актыўны ўдзел у барацьбе супраць мерапрыемстваў дзяржавы, з'яўляюцца актыўнай контррэвалюцыйнай сілай. Сталін у гутарцы з амерыканскай рабочай дэлегацыяй у верасні 1927 г. адзначыў, што партыя не павінна быць нейтральнай "у адносінах да рэакцыйнага духавенства, якое атручвае сумленне працоўных мас". Антырэлігійная прапаганда на сталінскай мове азначала разбурэнне храмаў, у тым ліку мячэцяў, мусульманскіх школ, арышт і фізічнае знішчэнне мусульманскіх духоўных асоб, прадстаўнікоў татарскай інтэлігенцыі. Усё гэта было пастаўлена ў цэнтр дзейнасці партыйна-дзяржаўных органаў Беларусі і прывяло беларускіх татар да мяжы знікнення як самабытнага этнасу. Шмат татараў былі незаконна асуджаны сталінскім рэжымам і знаходзіліся ў лагерах Поўначы, Сібіры, Казахстана і Далёкага Усходу. Каля 1 000 татараў загінулі на франтах Другой сусветнай вайны. Многія татары-мусульмане баючыся, што іх можа напаткаць лёс крымскіх татараў, каб не быць дэпартаванымі, выехалі ў замежныя краіны.

За гады савецкай улады прыйшла ў заняпад і мусульманская культура беларускіх татар. З 19 мячэцяў, што дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі перад Другой сусветнай вайной, засталася толькі адна ў г.п. Іўе, Гродзенскай вобласці. Бадай апошняй, у 1962 годзе была зруйнавана Мінская мячэць, што стаяла на Татарскім канцы горада на месцы калісьці драўлянай *(1599 г.)*. Прыкладна ў гэты час былі знішчаны мізар *(татарскі могільнік)* і татарскія агароды. Зніклі і вуліцы Малая Татарская і Вялікая Татарская – іх перайменавалі ў Дзімітрава і Калгасную.

Гэтакі ж сумны лёс спасціг і татарскія мізары. Цяжка сказаць колькі іх уцалела сёння. Аб маральнасці жывых можна меркаваць па адносінах да памерлых. А становішча могілак у той або іншай ступені вызначае і становішча грамадства. Па падліках С. Крычынскага у 1938 г. толькі на тэрыторыі трох ваяводстваў – Віленскага, Наваградскага і Беластоцкага знаходзілася 68 мізараў. "Мусульманскі каляндар" на 1939 г. называў лічбу 71. Найбольшая колькасць іх прыпадала на Наваградскае ваяводства – 47.

Ужо тады знікла шмат старых мізараў і толькі ўцалелыя магілы сведчаць аб іх даўнім існаванні. Адной з прычын поўнага знішчэння колішніх мізараў сталася Першая сусветная вайна. Немцы рылі там траншэі і рабілі бетонныя акопы. Такія збудаванні яшчэ і сёння захоўваюцца ў некаторых мясцовасцях (*напрыклад мізар у в. Ластаі, каля Ашмян*). Пазней у мясцовасцях, дзе ўжо не жылі татары, іх могілкі станавіліся ахвярамі прагнасці і ўсёеднасці. Надмагільныя помнікі ў шэрагу раёнаў рэспублікі забіраліся на будаўніцтва дарог, фундаменты калгасных жывёлагадоўчых ферм. Само святое месца займалася пад выпас жывёлы або заворвалася (*Сіняўскі мізар*). Паводле звестак сябра Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб", настаўніка са Смаргоншчыны У. Прыхача падчас будаўніцтва да Алімпійскіх гульняў шашы Мінск – Вільня, многія "перашкоды" на шляху былі разбураны і назаўсёды ліквідаваны як "дробязі". Гэтымі "дробязямі" з'явіліся старыя татарскія могілкі каля вёскі Гамзічы. Такіх могілак было знішчана двое. *"Магу заўважыць і аб тым,* – піша У. Прыхач,– *што за апошнія гады ў тых мястах адбылося пяць дарожных аварый з ахвярамі, што парадзіла ў мясцовых жыхароў адчуванне фатальнага адказу за ўздзеяннае бездумным начальствам".*

Зруйнаваны мізар і ў Капылі. Выпівохі з недалёкай забягайлаўкі прыходзяць сюды "адпачыць". Жалю годны і татарскія магілы, многія помнікі вывернуты, разбітыя. Толькі нядаўна мізар агароджаны. У канцы 60-х гадоў быў гвалтоўна знішчаны мізар у Мінску. На месцы мізара разбілі сквер, дзе выгульваюць сабак. Зберагласся толькі адна магілка – Х.М. Александровіча – актыўнага ўдзельніка мінскага антыфашысцкага падполля. Для яе захавання прыйшлося шмат намаганняў прыкласці нашчадкам нябожчыка, многа разоў паабіваць парогі тагачаснага высокага начальства. Спіс разбурэнняў і заняпад можна падаўжаць і падаўжаць, тым больш, што татарскія паселішчы былі ў розных кутках Беларусі. Без перабольшвання трэба адзначыць, што таталітарнае праўленне ў СССР прывяло да заняпаду татарскай меншасці на Беларусі, паставіла яе на мяжу знікнення. За пасляваенныя гады рэзка скарацілася татарскае насельніцтва ў месцах іх ранейшага кампактнага пражывання. Калі, напрыклад, у г.п. Відзы, Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці ў 1938 годзе жыло 760 татар, то сёння іх налічваецца менш за 50 чалавек, у г. Слоніме было 413 чалавек, сёння толькі 96, у г. Навагрудку адпаведна 766 і 316, у г.п. Мядзель 250 і 90, у г.п. Докшыцы 460 і каля 50. У вёсцы Даўбучкі Смаргонскага раёна жыло 408 чалавек. Цяпер там застаўся толькі

адзін татарын (*Радкевіч Аляксандр Адамавіч*). Даўбуцішская мячэць, якая была пабудавана яшчэ ў 1557 годзе і лічылася ў Польшчы помнікам гісторыі і культуры, разбурылася. У 1991 годзе рэшткі мячэці былі перавезены пад Мінск, дзе да сённяшняга дня яна не аднаўляцца ў музеі драўлянага дойлідства.

Урбанізацыя насельніцтва прывяла да рэзкага скарачэння татарскай сям'і. Калі да Другой сусветнай вайны (*паводле перапісу 1926 года*) сярэдняя статыстычная татарская сям'я складала 8–10 чалавек, то сёння 3,2 (*у горадзе*) і 3,9 (*у сельскай мясцовасці*). Назіраецца агульная тэндэнцыя зніжэння натуральнага прыросту, выкліканая з аднаго боку зніжэннем нараджальнасці, з другога – высокай смяротнасцю сярод беларускіх татар (*асабліва ў рэгіёнах забруджаных радыёнуклідамі - г.п. Іўе ды інш.*). Калі ў бліжэйшы час не будуць прыняты дзяржаўныя праграмы па захаванню гэтага рэліктавага народа, беларускія татары хутка знікнуць як этнас.

Беларускія татары, як і ўсе мусульмане вераць, што жыццё на гэтым свеце не што іншае, як выпрабаванне, падрыхтоўка да будучага жыцця ў царстве нябесным. Вера ў Дзень Суда, уваскрашэнне, рай і пекла з'яўляюцца адной з асноў Ісламу. Прарок (*мір яму!*) вучыў, што ёсць тры рэчы, якія дапамагаюць чалавеку пасля яго смерці: міласціна, якую ён даваў, веды, якія ён перадаў іншым, малітвы, якія чытаюць за яго душу набожныя дзеці. Мусульманская рэлігія для беларускіх татар – гэта нацыянальная спадчына і крыніца этнічнага адраджэння. Іслам дае сваім вернікам пачуццё паўнаты і радасці жыцця, вучыць берагчы чалавека і навакольнае асяроддзе, гуманізуе сферу сямейна-бытавых адносін, узбагачае культуру народа. Беларускія татары вывучаюць гісторыю свайго народа і сваей радзімы – Беларусі, паважаюць нацыянальныя сімвалы, над якімі разам з беларускім і іншымі народамі яны змагаліся супраць іншаземных захопнікаў і прыгнятальнікаў. У сваіх штодзённых малітвах беларускія татары просяць Бога быць літасцівым і міласэрдным да зямлі, на якой яны жывуць і якая ім стала радзімай, і да людзей, якіх татары лічаць сваімі братамі.

***Мір Вам, міласць Аллага Усявышняга і Яго блаславенне!***

**Ібрагім Канапацкі**



## Обзор республиканских и российских средств печати, посвященных исламу, с 1 по 25 января 2000 года

Как общеизвестно, Ислам – это религиозное учение и образ жизни сегодня интернационализирован, его почти что исповедуют все нации и народы в большем или меньшем числе, но на всех континентах, где живут люди; Ислам является настоящим и действительным наследием всего человечества, это однозначно - что эта вера высокого и трезвого разума, великой и вдохновлённой эрудиции, это настоящая чистота и мораль, добрые отношения и ответственность, порядок и действительная помощь больному, бедному, сирому, это принятие в житьё всего того, что исповедует верующий в Аллаhа.

На Беларуси на сегодня зарегистрированы 2 ветви Ислама это суннизм, который испокон веков исповедуют белорусские татары-мусульмане и некоторые другие народы в своём большинстве, и шиизм.

Люди, которые исповедуют Ислам, живут надеждами, мечтами и мыслями, что государство, как родная мать, также вдохновит и поможет своей любовью и поддержкой, тем же уважением и вниманием, как, например, это на официальном уровне делается с православием и как вынуждены делать с католицизмом, с разными протестантскими сектами.

Делая обзор средств печати, мы внимательно взяли на свой просмотр и изучение такие издания, как:

- "Труд-7" с региональным изданием "Труд в Беларуси";
- "АиФ. Я – молодой";
- "Советская Белоруссия";
- "Звязда";
- "Народная газета";
- "Народная воля";
- "Народная трибуна" (*г.Брест);*
- "Белорусская деловая газета";
- "Культура";
- "Республика";
- "Glos znad Niemna" (*г.Гродно)*.

Как показывает их анализ, государственная печать, как мачеха, в первом месяце этого года отнеслась к наиважнейшим событиям у мусульман страны – это ход САУМа в священный месяц Рамадан, наиважнейшие ночи в нём (*Кадыр-ночь*) и празднование Ид аль-фитр (*праздник разговения*).

В печати на 2000 г. были представлены все православные и католические праздники, а про мусульманские не дали ни одной строчки. И это при том, что Ислам входит в число мировых религий. Правда, газета "Труд – 7" (*13–19 января 2000 г.*) не забыла: *"Мусульмане празднуют Новый год 6 апреля, на их календаре пока 1400 г."* (*№1*).

Из немусульманских изданий только газета поляков на Беларуси "Глос знад Нёмна" ("*Glos znad Niemna*") не забыла про Праздник разговения у мусульман и 6 января 2000 г. напечатала очень тёплые и дружеские заметки под названием: "7 stycznia 2000 roku – Id al-Fitr U przyijaciol Tatarow" (*№ 2*). (*7 января 2000 г. - Ид аль-фитр у друзей татар*). Коротко, но ясно поданы главные вести для татар-мусульман Беларуси, Литвы и Польши, как и когда будет отмечаться Рамадан-Байрам, рассказано также и о закяте.

Конечно, такое внимание газеты "Глос знад Нёмна" настоящим бальзамом легло на души и сердца верующим Ислама. Как мне стало известно, руководство Мусульманского религиозного объединения в РБ направило своё письмо признательности на адрес газеты за такую похвальную инициативу.

В газете "Республика" (*№ 3*) за 4 января 2000 г. наше внимание под рубрикой "Религия" привлекла статья "Без срока давности", где говорится о протягивающейся реакции на "Сатанинские стихи" Салмана Рушди. В газете говорится:

*«Полтысячи иранских экстремистов выразили готовность продать собственную почку, чтобы собрать средства на финансирование убийства британского писателя Салмана Рушди, 10 лет назад приговорённого к смерти за книгу "Сатанинские стихи", в которой лидер исламской революции Аятолла Хомейни усмотрел богохульство в отношении Ислама. Во имя нормализации отношений с Соединённым Королевством правительство Ирана дезавуировало в прошлом году фатву Хомейни. Однако члены одной исламской группировки не согласились с этим жестом примирения и объявили сбор средств на "святое дело" путём продажи собственных почек. В общей сложности 508 человек, среди которых*

